# НЯБЕСНАЕ ПАКРЫВАЛА

**(ІНДЗЕЙСКАЯ КАЗКА)**

Аднойчы ў полі ля ракі працавала індыянка. Побач сярод блакітных і лілійных кветак гулялі яе двое дзяцей.

Раптам наляцеў моцны вецер. Потым паліў дождж, сапраўдны лівень. Ён адразу заліў усё вакол. І вада ў рэчцы таксама ўзнялася высока-высока. Яна была вельмі халодная.

Маці схапіла за рукі дзяцей і пабегла з імі да хаткі з пальмавага лісця. Але яна не магла ўцячы ад хуткага ветру і ад вады. Вада ўзнімалася ўсё вышэй і вышэй. І перашкаджала бегчы.

Індыянка, узяўшы на рукі меншае дзіця, узлезла з ім на магутны дуб. Старэйшы ўскарабкаўся за ёю следам. Нарэшце яны ўзлезлі так высока, што вада ўжо не даставала да іх. Здавалася, цяпер яны ўжо былі ў бяспечным месцы.

Вецер усё завываў, і вада прыбывала. Дождж раптам скончыўся, але халодны вецер працягваў шумець сярод дрэў, раскачваў і тое дрэва, на якім схавалася трое ўцекачоў. Было вельмі холадна, і дзеці ўголас плакалі.

— Мама, мае ногі замерзлі, — плакаў малодшы.

— Мама, мае рукі замерзлі, і я не магу больш трымацца за галіны, — скардзіўся старэйшы.

З-за чорных ірваных хмар выглянуў месяц. Яго яркае святло разлівалася вакол.

— Мама, нам холадна, — плакалі дзеці.

Маці таксама было вельмі холадна.

— Ясны Месяц, — пачала прасіць маці. — Мае дзеці замерзлі, і я не магу нагрэць іх. Прашу цябе, не дай ім памерці ад холаду. Пашкадуй іх, яны такія яшчэ маленькія. Пашкадуй і мяне, каб я магла быць каля іх. Памажы нам!

І пакуль індыянка прасіла Месяц, чорныя хмары зацягнулі неба. Месяц схаваўся за хмарамі. Потым ён зноў засвяціў у вышыні, і маці і дзеці паснулі. А Месяц узяўся за работу. Усю ноч ён ткаў, ткаў, ткаў...

Надышла раніца. Маці і дзеці прачнуліся. Ім было цёпла. Яны глянулі на галіны дрэў, і — о дзіва! Такога яны ніколі яшчэ не бачылі: усе дрэвы і галіны і яны



 

самі былі закутаны пушыстым шэра-зялёным пакрывалам. Гэта Месяц выткаў яго. Індыянка не магла адарваць вачэй ад яго, і дзеці таксама.

— Мама! — крыкнуў старэйшы. — Усё вакол закутана пакрывалам. Таму нам цёпла! Значыць, Месяц пачуў тваю просьбу. Ён парваў хмары і выткаў з іх пакрывалы. Ён павесіў іх на дрэвы і награэў нас.

— Так, дзеці. Месяц дапамог нам. Неба ачысцілася, а ўсе хмары ляжаць на дрэвах.

Яны спусціліся з дуба і пайшлі дадому.

З таго часу на ўсіх дрэвах у Луізіяне паявіўся шэры мох, а адтуль ён перайшоў і ў іншыя месцы. Гэты мох індзейцы называюць нябесным пакрывалам.

# ЯК МІША І ПІНЯ СПАЛОХАЛІСЯ

Жылі на адной ільдзіне два сябры: Міша Паўночны і пінгвін Піня.

Ішлі яны так неяк па сваёй ільдзіне, і раптам насустрач ім — велізарнае і страшнае НЕШТА. Пашча ў яго разяўлена, а ў ёй сто цвікоў-зубоў: вострых-ваструшчых, іржавых-іржавушчых. Як тут не спалохаешся!

— Ой! — крыкнулі разам Піня з Мішам, не згаворваючыся, ды на ўцёкі. Беглі-беглі, пяць разоў падалі, насы разбілі, адзежкі парвалі, скаціліся ў ямку і ляжаць, вочы зажмурыўшы. „Вось-вось, думаюць, — НЕШТА нас, як агуркі, схрумстае“.

І праўда. Прытупала НЕШТА, спынілася на краю ямкі, пасапло і з'ехала ўніз.

„Канец!“ — падумалі Міша з Піням. Але НЕШТА іх не з'ела, а тыцнула ў іх па чарзе носам і сказала скрыпучым голасам:

— Фёкла!

— Што, што? — не зразумеў Міша. З цікаўнасці ён пасмялеў і адчыніў адно вока.

— Фёкла, кажу. Завуць мяне Фёкла! — паўтарыла НЕШТА.

— Як Фёкла?! — Ад здзіўлення Міша адчыніў абодва вокі, а Піня адкрыў рот. — А мы думалі, ты мужчына.

— Мужчына! — зарагатала Фёкла. — Мужчына — гэта чаравік. А я — туфля. Мяне кухарка з карабля выкінула. „Плыві, — кажа, — далей, старая ты ўжо. Напраўляць цябе ўжо няма сэнсу, толькі грошы выкінеш.“ Узяла ды выкінула. Яшчэ і сёння костачкі баляць. Так аб лёд стукнулася. А вас убачыла, уцешылася. Ну, думаю, кампанія! А вы ад мяне наўцёкі... Ледзь дагнала. Не дзяўчынка я, каб па ільдзінах бегаць ды па моры плаваць. Мне ўжо пяць гадоў, для туфлі і так вельмі старая.

— Бабулька, — запрапанаваў Піня, — заставайся з намі на ільдзіне жыць. Тут у нас вельмі цікава і рыба смачная.

— Чаму ж не, на ільдзіне дык на ільдзіне! Я згодна.

Гуляюць цяпер на ільдзіне трое: пінгвін Піня, мядзведзік Міша Паўночны і добрая старая туфля Фёкла. А па вечарах бабуля Фёкла сваім новым сябрам розныя марскія гісторыі расказвае.

**С. Макараў**



 

**М. Прышвін**

# Здрадлівая каўбаса

Ярык вельмі пасябраваў з маладым Рабчыкам і цэлы дзень з ім гуляў. Так, у ґульні, ён правёў тыдзень, а потым я пераехаў з ім з горада ў глухую хатку ў лесе, у шасці вёрстах ад Рабчыка. Не паспеў я абсталявацца і агледзецца на новым месцы, як раптам у мяне знікае Ярык. Увесь дзень я шукаў яго, усю ноч не спаў, кожную гадзіну выходзіў на ганак і свісцеў. Раніцой, толькі сабраўся ісці ў горад, у міліцыю, з'яўляюцца мае дзеці з Ярыкам; ён, аказваецца, быў у гасцях у Рабчыка. Я нічога не маю супраць сяброўства сабак, але нельга ж дапускаць, каб Ярык без дазволу пакінуў службу ў мяне!

— Так нельга, — сказаў я строгім голасам. — Гэта, брат, не служба. А апрача таго, ты пайшоў без намордніка — значыцца, кожны сустрэчны мае права цябе застрэліць.

Я ўсё выказаў суровым голасам, і ён выслухаў мяне, вінаваты, засаромлены.

— Не будзеш больш хадзіць да Рабчыка? — спытаў я ўжо больш лагодным голасам.

— Ніколі не буду, добры гаспадар.

— Перастань лапіцца! — сказаў я строга.

І дараваў.

Мы жылі ў дружбе нядоўга, усяго толькі тыдзень, а потым ён зноў кудысьці знік. Хутка дзеці, ведаючы, як я непакоюся аб ім, прывялі ўцекача: ён зноў зрабіў Рабчыку незаконны візіт. На гэты раз я не гаварыў з ім і пасадзіў яго ў цёмны падвал.

У цёмным падвале падарожнік прабыў у мяне суткі. Потым, як звычайна, я сур'ёзна пагаварыў з ім і дараваў. Пакаранне падвалам падзейнічала толькі на два тыдні. Дзеці прыбеглі да мяне з горада:

— Ярык у нас!

— Нічога яму не давайце, — загадаў я. — Няхай прагаладаецца і прыдзе сам, а я падрыхтую яму адпаведную сустрэчу.

Мінуў дзень. Надышла ноч. Я запаліў лямпу, сеў на канапу, пачаў чытаць. Але зачыніць дзверы было нельга, таму што гэта быў адзіны ўваход, праз які мог з'явіцца Ярык. Я чытаў і слухаў музыку лесу.

Раптам мне нешта паказалася ў куточку вока. Я хутка ўзняў галаву, і гэта знікла. Цяпер я прымасціўся так чытаць, каб, не ўзнімаючы галавы, можна было бачыць парог. Хутка там паказалася нешта рыжае, пачало скрадацца ў абыход стала, і я думаю, мыш чутней прабегла б, чым тое вялікае падпаўзала пад канапу. Толькі знаёмае няроўнае дыханне падказвала мне, што Ярык быў пад канапай. Нейкі час я яшчэ чытаю і чакаю, але майго цярпення хапіла ненадоўга. Устаю, выходжу за парог і пачынаю клікаць Ярыка строгім голасам і ласкавым, галасна і ціха, свісцець і нават трубіць. Так я пераканаў ляжачага пад канапай, што нічога не ведаю аб яго вяртанні. Потым я зачыніў дзверы і кажу ўголас:

— Мабыць, Ярык ужо не прыдзе. Час вячэраць.

Слова „вячэраць" Ярык ведае выдатна. Але мне здалося, што пасля маіх слоў пад канапай стрымалася нават дыханне.

Я вельмі люблю сухую каўбасу і заўсёды яе ем разам з Ярыкам. Звычайна хапіла толькі мне варухнуць шуфлядкай стала, дзе ляжаў запас вэнджанай каўбасы, каб Ярык падбег да стала, бліскаючы вогненным позіркам.

Я выцягнуў шуфляду — з-пад канапы ані гуку. Рассоўваю калені, гляджу ўніз — ці няма там рыжага носа. Не, носа не відаць. Рэжу кавалачак, голасна жую, заглядваю — не, хвост не малоціць. Пачынаю сумнявацца, ці не здаўся мне рыжы цень ад моцнага чакання і Ярыка зусім няма пад канапай. Цяжка думаць, каб ён, вінаваты, не паласаваўся нават на каўбасу — ён жа ж яе так любіць.



Калі я, здаралася, вазьму кавалачак, надрэжу, — наддзяру шкурку, каб можна было за канец яе трымацца пальцамі і кавалачак вісеў бы, як на нітцы, дык Ярык задзярэ ўверх нос, доўга вартуе і раптам скочыць. Ды мала таго: калі я паспею ў час скоку адхапіць уверх руку з каўбасой, дык Ярык так і застаецца на задніх лапах, як чалавек. Я іду з каўбасой, а Ярык ідзе за мной на двух нагах, апусціўшы пярэднія лапы, як рукі, і так мы абыходзім пакой і раз, і два, і нават больш. Я спадзяюся ў будучыні пры дапамозе каўбасы наогул прывучыць яго хадзіць па-людску і калі-небудзь у час гарадскога гуляння паявіцца на вуліцы пад руку з рыжым хвастатым сябрам.

І так вось, ведаючы, як Ярык любіць каўбасу, я не мог згадзіцца, каб ён быў пад канапай. Раблю апошні дослед, кідаю ўніз не кавалачак, а толькі шкурку, і назіраю. Але як уважна я ні глядзеў, нічога не магу заўважыць: шкурка знікла як быццам сама па сабе. За другім разам я ўсё-такі дабіўся: бачыў, як мільгануў язычок.

Ярык тут, пад канапай.

Цяпер я адрэзваю ад каўбасы круглы канец з носікам, прывязваю нітку за носік і ціхенька спускаю ўніз паміж каленямі. Язык паказаўся. Я пацягнуў за нітку — язык схаваўся. Перачакаўшы трохі, спускаю зноў — цяпер паказаўся нос, потым лапы.

Больш няма чаго гуляць у хованкі: я бачу яго і ён мяне бачыць. Узнімаю вышэй кавалачак, Ярык узнімаецца на заднія лапы.

— Калі ласка, малады чалавек!

(У скарачэнні)




## ГУСІ-ПАЛОЛЬШЧЫКІ

На бавоўняныя плантацыі адной з паўднёваамерыканскіх краін выгналі статак гусей. Пражэрлівыя птушкі, ходзячы паміж радкамі, не чапаючы бавоўны, выдзёўбвалі траву. Аказваецца, гусям непрыемны смак бавоўны. Спецыялісты падлічылі, што 25 гусей можа ўтрымаць у чысціні 10 гектараў поля.

## ГІНКГО

Дрэва гінкго дзіка расце ў Паўднёвым Кітаі. А ў Еўропе культывуецца ў парках. Цікавае гэта дрэва тым, што яно вельмі старажытнае, сучаснік лётаючых яшчараў, род гінкго існуе на зямлі больш ста мільёнаў гадоў. Лісце дрэва гінкго выглядае вельмі прыгожа. Яно ў выглядзе веера або „балалайкі“, ды яшчэ сабранае ў гармошку. Цяпер гэтым дрэвам у нашых шыротах упрыгожваюць паркі.

## НЕБЯСПЕЧНЫЯ ПАСАЖЫРЫ

Савецкі карабель стаяў на якары ў порце Пінанг (Малайзія). Вечарэла, была нястрымная гарачыня, у трумах працавалі грузчыкі. Раптам рой дзікіх пчол воблакам спавіў карабель і апусціўся ў трум. Мясцовыя жыхары сцвярджаюць: калі адна пчала ўкусіць чалавека, следам накідваюцца і ўсе астатнія. Экіпаж карабля хутка зачыніў усе памяшканні на караблі. Тым часам рой асеў у адным з трумаў і прыняў форму велізарнай дыні. Рабочыя маглі прыступіць да працы толькі тады, калі пчол аблілі вадою. На другі дзень карабель пакінуў порт. Маракам давялося нямала папрацаваць, каб пазбыцца няпрошаных гасцей. На шчасце, ніхто не пацярпеў.

## РАЗМОВА З ПТУШКАМІ НА ПТУШЫНАЙ МОВЕ

Жыхары аднаго з раёнаў Алма-Аты звярнуліся да Акадэміі навук Казахстана з просьбай пазбавіць іх ад крыклівых галак і варон. Велізарныя зграі птушак выбралі сабе на начлег алею побач са шматпавярховымі жылымі дамамі. Птушкі перашкаджалі людзям спаць, раніцай будзілі задоўга да світання.

Праблему начнога спакою для гараджан вучоныя вырашылі пры дапамозе магнітафона, запісаўшы на плёнку падаваныя галкамі сігналы трывогі. Аказалася, што іх крыкі разумеюць таксама вароны і гракі. У выніку гэтага гарластыя суседзі пачалі ўцякаць на начлег за горад.

Алма-ацінскія вучоныя стварылі фанатэку птушыных галасоў. Запісалі рулады ста відаў птушак. Гэтая рэдкая калекцыя выкарыстоўваецца ў практычных мэтах. З яе дапамогай удалося перасяліць з раёна аэрапорта стаі птушак, якія стваралі небяспеку для самалётаў.



# Школа пад лесам

Дарагая „Зорка“! Я жыву ў вёсцы Нурэц, але вучуся ў школе на чыгуначнай станцыі Нурэц. Наша вёска і станцыя называюцца аднолькава, але адлегласць паміж імі больш пяці кіламетраў, а калі ехаць шашой, дык будзе і больш дзесяці кіламетраў.

У нашай вёсцы ёсць чыгуначны прыпынак — Новы Нурэц называецца. Яго пабудавалі нашы бацькі грамадскім чынам. Адсюль мы найчасцей ездзім у школу.

Наша школа двухпавярховая, пабудавана вельмі даўно, калі нас яшчэ на свеце не было. Стаіць яна пад самым лесам. Зрэшты, у нас на станцыі Нурэц усюды лес. Асабліва прыгожа тут ранняй вясной, калі зацвітае сасна, а голыя яшчэ бярозкі пачынаюць пускаць свой салодкі сок. Якое чыстае, смалістае тады ў нас паветра! Летам таксама тут вельмі прыгожа. А колькі грыбоў у нашым лесе! За грыбамі прыязджаюць да нас аж з Варшавы.

Цяпер, калі ў Нурэц прыязджаюць у школу дзеці з навакольных вёсак, у нас зрабілася ў школе цесна. Але, нягледзячы на гэта, у нас паспяхова дзейнічаюць розныя гурткі зацікаўленняў, шмат працуем грамадскім чынам, асабліва пры пасадцы і праполцы лесу.

Я ўдзельнічаю ў вакальна-драматычным гуртку. Рыхтуем мы спецыяльныя пастаноўкі, адзначаем гадавіны, якія святкуе ўся наша краіна.

Пад канец лютага мы выступалі з песнямі на ўрачыстасці, прысвечанай Савецкай Арміі. Спачатку была сустрэча з адным сапраўдным афіцэрам Савецкай Арміі — з маёрам Генадзем Казарэзам. Ён быў у такім прыгожым цёмнасінім мундзіры з залатымі пагонамі. Разам з ім выступаў яшчэ ветэран, удзельнік II сусветнай вайны, наш зямляк з вёскі Навасёлкі пад Мілейчыцамі Мікалай Турык. У яго былі ўсе грудзі ў медалях. Сапраўдны герой!

Дарагая „Зорка“! Прабач за памылкі, бо ў нашай школе няма, на жаль, беларускай мовы. Але мой тата выпісвае „Ніву“, і я кожны тыдзень чытаю „Зорку“.

Усяго табе добрага, „Зорачка“!

**Марыся з Нурца.**



*А гэта наш хор.* *Фота В. Рудчыка*




ССCР, 344092, Ростовская обл., г. Ростов н/Д. — 92, ул. Добровольского 34/2, кв. 23. Витенко Анжелике. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 93, кв. 83. Лена Церапішчая, 14 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 77/2, кв. 6. Валянціна Куляшэвіч, 14 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 55. Коля Кавалёў, вучань 3 класа.




* ✲ *

— Толік, што ты зробіш, калі твае чатыры сяброўкі папросяць цябе раздзяліць паміж імі тры яблыкі?

— Звару ім кампот!

* ✲ *

— Тата, што такое класічная музыка?

— Гэта музыка, якую трэба любіць, падабаецца яна табе ці не.

* * *

Настаўнік: „Скажы мне, Янка, якія птушкі маюць крылы, а лётаць не могуць?“

Янка: „Абскубаныя.“

## АДГАДАНКА



Якая сарэнка з'ела сена з пасні ка?

Адрас рэдакцыі „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.